ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1560) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 11 СТУДЗЕНЯ 1987 г. ЦАНА 10 зл.




## ТРЫ ІМЁНЫ

Вецер круціць снежны пыл,
Грузнуць полаз і капыл,
У сумётах тонуць сані,
І не блізкі свет да Сані.
Еду, еду напрасткі
Цераз кручы і масткі,
Круціць снежны слуп віхор,
За бугром — ізноў бугор.
Слепіць вочы белы змрок, —
Пераходзіць конь на крок.
Не відно на полі следу,
А я еду, еду, еду,
Прыпынюся. А куды?
У юнацкія гады,
На шчаслівае спаткание
Да Алесі, Шуры, Сані.
Буду ехаць да відна,
Можа, стрэне хоць адна.
Раптам бліснула святло:
Значыць, Новае Сяло.
Спорнай конь пайшоў хадою,
Бо вязе да маладое.
І прывёз ажно уранні
Да Алесі, Шуры, Сані.
Ад марозу паратунак
Быў гарачы пацалунак
І пасаг — кісет чырвоны,
А ў прыдачу — тры імёны:
Саня,
Шура
і Алеся.

**Сяргей Грахоўскі**



Салістка „Дубіноў“ Марыёля Пшыходская. Фота М. Гайдука.




### НАЦЫЯНАЛІЗМ ПЕРАШКАДЖАЕ ПАТРЫЯТЫЗМУ

Чытаючы чыёсьці, заўсёды знаходжу колькі словаў, якія не даюць мне спакою. У артыкуле А. Баршчэўскага „Голас беларускага адраджэння“ (пра 80-годдзе „Нашай нівы“) напаткаў я словы, якія гавораць пра абвінавачванне „Нашай нівы“ ў нацыяналізме, сеянні варожасці паміж нацыямі, і пра служэнне эксплуататарскім класам. Такія галасы чуліся ад пачатку нарадзінаў сучаснай беларускай нацыянальнай свядомасці — у дзевятнаццатым стагоддзі і пасля, у час Грамады, потым у 1956 годзе і зусім нядаўна, у 1980-1981 гадах. Некаторыя з нашых суседзяў лічаць, што патрыятызм ёсць тады, калі ніштожыцца беларуская культура і нацыя. А калі беларусы не хочуць перастаць быць беларусамі, тады абзываюць іх нацыяналістамі. Словам — процібеларускае лічыцца патрыятычным... І ў нашай „Ніве“ друкаваліся лісты пра нянавісць да нас, беларусаў, у якіх найменшая праява нацыянальнай уласнай свядомасці кваліфікуецца як нацыяналізм або і шавінізм.

Думаю, што маўчаць нам пра гэта не трэба і што добра, калі А. Баршчэўскі піша якраз пра гэта. Тым болей, што спакайнейшага і згодлівейшага за беларусаў народа ў свеце можа і няма... Некаторыя з беларусаў ужо да таго згодлівыя і баяцца абразіць каго-колечы, што нават выракаюцца свайго беларускага паходжання, для святога спакою перастаюць быць беларусамі, перастаюць быць сабою, каб толькі крыўды на сябе ці злосці чыёй не наклікаць. Праз такую дабрыню, то мы і наогул прападзем!

А. Баршчэўскі піша, што „найбольш балючае, аднак, тое, што самыя знішчальныя, нігілістычныя і бязлітасныя нападкі на „Нашу ніву“ выйшлі з колаў беларускіх публіцыстаў...“ Ну, балючае, але калі ўспомнім артыкул таго ж Баршчэўскага пра паэта Міхася Чарота, які ў час культу асобы выракся сваіх калегаў і сяброў, каб толькі выратаваць сваю галаву, то думаю, што ў некаторай меры можна зразумець тых публіцыстаў. Перад смерцю многа герояў няма, каб адкрыта на гэтую смерць глядзець. Вельмі жаль, што крытыцызм у той „час буры і напору“, як піша Баршчэўскі, не дазваляў глядзець на справы таксама інакш. З другога ж бо-

(Праця на стар. 4)

## МОЛАДЗІ-ПРАСТОР ДЛЯ ДЗЕЙНАСЦІ

„Роля і ўдзел моладзі ў дзейнасці БГКТ“ — гэта галоўнае пытанне, якому сваю ўвагу і час 14 снежня 1986 года прысвяцілі члены Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і запрошаныя госці. Пленум распачаўся ад урачыстага ўзнагароджання Аляксандра Бароўскага з Дубровы Беластоцкай бронзавым знакам пашаны *„За заслугі ва ўмацаванні грамадскага парадку“*. З нагоды 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ шматлікай групе дзеячоў Таварыства былі ўручаны „Ганаровыя граматы БГКТ“.

З дакладам па тэме пасяджэння выступіў сакратар ГП БГКТ — Віталій Луба. Ён спаслаўся на пастановы X з'езда ПАРП, у якіх праблемам маладога пакалення Польшчы адводзіцца шмат увагі. „Дбаючы пра ўмовы грамадскага і прафесіянальнага росту маладых людзей, партыя будзе клапаціцца таксама і пра іх ідэйную і грамадскую адукацыю“, — сказана, між іншым, у пастановах. Гэтыя словы, на маю думку, поўнасцю адносяцца таксама і да ролі ды значэння моладзі ў дзейнасці Беларускага таварыства.

„Пастаяннае, паспяховае развіццё дзейнасці кожнай арганізацыі, у тым ліку і БГКТ, — гаварыў дакладчык, — абумоўлена актыўным удзелам моладзі ў ажыццяўленні праграмы гэтай арганізацыі“.

І сапраўды, калі паглядзець на шлях, пройдзены Беларускім таварыствам па сцежках Беластоцкага краю, дык найчасцей сустракаюцца сляды маладзёжнай актыўнасці. Успомнім хаця б славутую „Лявоніху“. Клуб БГКТ на вул. Варшаўскай 11 у Беластоку ад пачатку свайго існавання заўжды гучаў песнямі, танцамі і вясёлым гоманам маладых. Таксама было ў Варшаве, Гданьску, Бельску і Гайнаўцы.

Праходзілі гады, чаргаваліся пакаленні, мяняліся моды і патрэбы. Тыя маладыя людзі, што прыходзілі ў БГКТ, найчасцей не былі задаволены дасягненнямі (ці недахопам дасягненняў) сваіх папярэднікаў. Здараліся спрэчкі і ўзаемныя прэтэнзіі. Ой, як жа ж запамяталіся мне гэтыя бурлівыя сходы! І як жа ж добра, бо на аснове барацьбы супярэчнасцяў і процілегласцяў якраз і засяроджваецца марксісцкая дыялектыка — гэты найдасканалы рухавік развіцця прыроды, грамадства і рэвалюцыйнага пераўтварэння рэчаіснасці.

Якая тады роля моладзі ў дзейнасці БГКТ на цяперашнім этапе, у палавіне васьмідзесятых гадоў нашага стагоддзя?

Вясковыя гурткі БГКТ у асноўным складаюцца з маладых людзей, у гарадскіх аддзелах,

(Праця на стар. 4)

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ПРЫДАННЕ

Каля поўдня прыязджала на панадворак маладога „прыданне". Складалася яно, як правіла, з двух вазоў. На першым возе красавалася высока пастаўленая скрыня, у якой знаходзіліся звалькі кужалю, дываны, радзюжкі, вопратка маладой і тыя падарункі, якія маладая атрымала ў часе „перапівання". Апрача гэтага былі ў ёй падарункі маладой для бацькоў, сясцёр, братоў мужа. Да скрыні ў многіх вёсках прымацоўваўся чырвоны сцяг. Апрача гэтага ўсяго старшая сванька вязла ўпрыгожаную многімі каляровымі стужкамі курку-прыданку. У склад „прыдання" ўваходзілі, між іншым, бацькі маладой, яе хросныя бацькі, дзядзькі і маршалак, у тым ліку, калі не прыехаў разам з маладой.

У варотах „прыданне" сутыкалася з непрыемнымі нечаканасцямі. Найчасцей была гэта вялікая лялька, напіханая саломай і пакулем. Да сярэдняй часткі „цела" гэтай фігуры была прымацавана бутэлька з вадою, а ў руках трымала яна гаршчок з попелам. Пры дапамозе шнурку госці маладога ўмела вылівалі ваду і высыпалі попел на галаў „прыдання". Калі „прыданне" ўжо прабілася праз гэту перашкоду і пад'язджала пад парог хаты, там вітаў іх дзікі аркестр, які паслугоўваўся такімі „інструментамі", як валкаўніцы, патэльні, гаршкі. У гэтай групе знаходзілася пераапранутая за маладую беззубая старэча. Члены „прыдання", як быццам шукаючы згоды і гармоніі з гаспадарамі, спявалі песню:

Мы да вас прыехалі  
Ні піва папіці,  
Ні хлеба паесці,  
А толькі на тое,  
Каб зараз пабачыці  
Дзіця дарагое.  
Выйдзі (імя маладой),  
выйдзі,  
Не рабі нам крыўды.  
Дайце „прыданню" волю,  
На скрыню камору,  
На коні стайніцу,  
А для нас святліцу.

Гаспадары, аднак, не праяўлялі ахвоты да якога-небудзь паразумення. Упіраліся, даказваючы, што старая баба — гэта сапраўдная маладая, а пэўныя змены ў яе выглядзе — гэта вынік праспанай з мужам першай ночы, а па сутнасці — раніцы. У такой сітуацыі члены „прыдання" спявалі песню. Прывядзем тут прыклад такой песні з Бельшчыны.

Не хочэмо, не хочэмо  
Такой молодыці,  
Што не мылася, не купалася  
У крыніці.  
Выпускайтэ із тэмніці  
Нашу гожу,  
Нашу дочэньку,  
Нашу кветочку-рожу.

Пачынаўся вялікі рэйвах, крыкі, шум. Госці прыкідваліся, што хочуць завярнуць коней і паехаць назад. Толькі тады адкрываліся дзверы і выходзіла з іх сапраўдная пара маладых. Маладыя кланяліся гасцям. Запрашалі іх у хату. Аднак накуль што госці не маглі засесці за вясельныя сталы. Справа ў тым, што ў гэтым моманце пачынаўся наогул даволі доўгі торг, які датычыў скрыні. Як і ў многіх іншых выпадках, скрыню трэба было выкупіць ад „прыданнікаў".

**А. Баршчэўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Ты не так даўно пісала пра жанчыну, якая не рашалася выйсці замуж, бо ў яе сімпатыі былі занадта вялікія „габарыты", і ў часе палавых зносін яна, замест роскашы, адчувала толькі боль, крывавіла і бегла пасля гэтага да лекара на ўкол.

Я хацела б расказаць пра падобную гісторыю, якая здарылася са мною. Толькі ў маёй гісторыі яна, гэта значыць я, была страшна закаханая. Нягледзячы на боль і мучэнні, я вельмі хацела выйсці замуж за майго хлопца, але ён адвярнуўся ад мяне. Не магу да сёння зразумець, чаму так атрымалася: цярпела ж я, а не ён, мне было найгорш. І калі хто меў бы адыйсці, дык я якраз, а не ён. Хаця мінула ўжо два гады, я пра яго не магу забыцца і, самае горшае, да сёння не магу выйсці замуж. Нягледзячы на ўсё тое, што было між намі, ніхто іншы мне не можа спадабацца так, як падабаўся той, адзіны. Дзе ж логіка, скажы, Сэрцайка?

**Каця**

Каця! Логіка якраз ёсць. Мужчыне неабыякава, як рэагуе пры палавых зносінах жанчына. У душы каханай ён бы хацеў бачыць сваё адлюстраванне, сваю радасць, пацвярджэнне сваіх пажаданняў і імкненняў.

У апісанай табой справе ён на такое пацвярджэнне разлічваць не мог. Як яму магло быць добра, калі ў той час табе было кепска, калі ты адчувала боль, а не роскаш?!

Прыемна ў такіх выпадках бывае толькі людзям з садыстычнымі схільнасцямі (паводле славутага маркіза). Такім людзям добра не толькі тады, калі яны прычыняюць камусьці боль, але і тады, калі іх б'юць, грызуць, мучаюць.

Твой жа хлопец быў, відаць, хлопцам нармальным, і з гэтага вынікала тое, што ён адышоў ад цябе. Мо і добра зрабіў. Справа ж сексуальнай гармоніі займае адно з важнейшых месц (калі не найважнейшае) у будучым сямейным жыцці. І ён, відаць, зразумеў гэта.

Скажы, а якое было б тваё жыццё? Пасля кожнай праспанай з мужам ночы бегла б да лекара на ўкол? У канцы канцоў абрыдла б і табе ўсё гэта і забіла б тваё вялікае каханне.

Лепш, вядома, што здарылася так, як здарылася. Лепш, што вы разыйшліся раней, калі яшчэ на вашым сумленні не засталіся пакрыўджаныя дзеці. Пазней сямейныя справы маглі б звязваць вас і, калі б нават вы не разыйшліся, то жыццё ваша магло б ператварыцца ў пекла.

Кожнаму — сваё! Можа, і ты яшчэ знойдзеш другое каханне, не менш гарачае і шчырае, а хлопец у сексуальных справах будзе больш дапасаваны да цябе. Увага! Не памяншай значэння пэўных спраў. Усё гэта для добрага сямейнага жыцця — неабходная ўмова.

**Сэрцайка**

## УДЗІВОСВЕТКІ

26-гадовая жыхарка індыйскага сяла Серампур у штаце Заходняя Бенгалія вымушана была правесці ноч у кампаніі... з кобрай. Ратуючыся ад паводкі, яна ўзабралася на дрэва, але з жахам убачыла знайшоўшую там сховішча змяю. Аднак кобра, як бы праяўляючы спачуванне да трапіўшай у бяду жанчыны, вяла сябе спакойна і ні разу за ўсю ноч не патрывожыла яе. Раніцай жыхары сяла падплылі на лодцы да дрэва і выратавалі жанчыну.

(Працяг са стар. 7)

## САКРАТ ЯНОВІЧ

## СКРОЎБА

га даканаў, горла заціснуўшы яму пальчыскамі сваімі валасатымі, шыю курачую, як быццам. Вываліў той бельмакі, рукамі памалаціўшы ўслепую, бы валянтоўшчык без духу, і абціх без гуку, змякнуў, як мех з зернем, што ў свіронччыку ссыпаюць у скрыню. Звязаўшы яго рамянём, вусны завязаўшы яму скуркаю зайчынаю з лапкамі, а затым жа ўзваліў сабе на плечы ды ў грумаках грузнучы дзе-як і па пояс, данёс стрымгалоўна да Ветрагончыка. Застагнаў быў неўдалота. Скроўба, перавалівшы яго жыватом цераз хрыбет конскі, узяў цуглі і крануўся пешкі, на Дзеразін дрыгвяністы зразу, пакасіўшы потым упрамак Мазуровае паляны, памятаючы мець Вялікую Мядзведзіцу ўсё лявей ад пераду. Ужо і зняў быў павязку з рота палоннага, узамен далоні яму абматаўшы ёю замест рукавіцаў, што ў клубаванне з ім зацярушыліся.

— Пусці ты мяне ісці на вяроўцы за канём тваім, а то акалею я ў маразіска такі. — Папрасіўся той у рыскуна, а загаманіў моваю, ад якое суміву не стала ў паходжанні ягоным занраўскім.

Зуб на зуб не нападае з перапалоху.

— Ну, добра ўжо. — пагадзіўся Скроўба.

Надоечы снегавіца збавенная пасыпалася і рыскун запаволіў хаду, паўздыхваючы ад злягчэласці. „Дадуць Бог і Пярун усемагутны — у нядзельку святую ў Каложы маліцца буду, і шчокі любашчыя Зофчыны глядзець".

— А ты, нябось, з-пад Тыкачына або Візны жа будзеш?

Вязнец такі скалануўся:

— Ага...

— Чаго ж гэта прыгнала вас сюды, га? — папытаў Скроўба з хітрай нахітрасцю.

Ветрагонік тупаў знурыўшыся, быццам гэта яго, во, вядуць у склеп згнівань па-пакутніцку.

— Мяне?! — уздзівіўся той звягліва.

— І цябе.

— А, пакупцаваць без мыта здумалі мы... ну, скуркамі дарагімі.

— Якімі жа, калі гэтак кажаш?

— А, бабровымі...

— Уразумлеў: за балвана мяне маеш, васпане! Сака ў Гарадні паглаголіць з табою не так, як я: спаважна ды пры горане кавальскім, што і ад застуды вылечыць цябе за тым жа заходам а і павыеш сабе, маці-бацьку пападзякуеш за тое, што на свет белы вылупіўся ты ў іх, змярзляк, гэ-гэ-гэ...

Працяг будзе

## СОННІК

—54—

**Кірмаш** — гучная забава або падазроны інтэрас, благая справа.

**Кіт** (да вокан) — маеш верных сяброў.

**Кіт** (марская жывёліна) — вялікая падзея.

**Кітаец** — навіны.

**Кішка** — сшываць яе — выздараўленне; паласкаць у вадзе — новае мерапрыемства, інтэрас удаўцца; бачыць яе, — радасць і каханне; кішкі жывёлы — непрыемнасці; нарыхтоўваць — карпатлівы, цяжкі занятак; есці — неспадзяваны візіт.

**Кішэнь** — атрымаеш падарунак.

**Кладка** — трывога.

**Кладоўка** — вясёлыя часы.

**Кленчыць** перад каханай (каханым) — страціць сваю самастойнасць, незалежнасць, апынуцца пад абцасам.

**Клетка** пустая — твой сум развеецца; з птушкамі — пазнаёмішся з шанаванымі людзьмі; купляць яе — прыкрасці; пазалочаная — прыбудзе дзяцей, задавальненне з іх.

**Клён** — прыемнае жыццё.

**Клёцкі** — твае пажаданні будуць задаволены; многа есці іх — сапсуеш страўнік.

**Клікаць** каго-небудзь — навіны; цябе клічуць — дакоры сумлення.

**Клін** — нязгода.

**Кліша** (у фатаграфіі) — ніколі не будзеш самастойным.

**Клопаты** — заповедзь шчаслівых здарэнняў.

**Клоўн** — цябе выкарыстаюць іншыя.

**Клумбы** зялёныя бачыць — здзяйсненне надзеі.

**Клуня** поўная — вялікі даход; пустая — нязбыўныя спадзяванні.

**Ключ** знайсці — шчасліва пазбегчы засады, падвоху; згубіць — сварка; насіць — ашчаднасцю далёка зойдзеш; адмыкаць ім — цябе западозраць.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Супольны здымак дзяцей, якія ўдзельнічалі ў сустрэчы з „Зоркай". Сярод іх настаўніцы Анна Вуйтовіч і Галіна Ігнатовіч.

# сустрэча ў Зубрах

Вёска Зубры, што ляжыць за Валіламі над самай савецкай граніцай, раскінулася ў лагчыніцы сярод маляўнічых пагоркаў, парослых лесам. А школа размясцілася на схіле гары, і ў вокны яе заглядаюць з вышыні стромкія сосны.

Хораша тут і летам. Але асабліва — зімою. Раздолле для санак, нартаў. Толькі катацца!

І дзеці тут вясёлыя, радасныя, старанныя, да ўсяго актыўныя. Часта збіраюцца на гарцэрскія зборы, арганізуюць супольныя забавы (варажылі на „Андрэйкі", рабілі свята печанай бульбы, цяпер рыхтуюцца да ёлкі.)

Частка дзяцей вывучае беларускую мову. Але ўсе яны адносяцца да яе вельмі сур'ёзна: удзельнічаюць у конкурсах беларускай песні, дэкламацыі, рэгулярна выступаюць у конкурсах тэатральных калектываў.

Разам са сваёй настаўніцай беларускай мовы, яна ж і дырэктар школы, Нінай Буднік дзеці і сёлета добра выступілі ў дэкламатарскім конкурсе, а цяпер рыхтуюцца да тэатральнага. Сёлета яны развучваюць беларускую народную казку „Чароўная чаша". Апрацавала яе для сцэнічных патрэб сама настаўніца, як гэта яна рабіла і ў папярэдніх конкурсах. І цяпер дзеці рэгулярна сустракаюцца, каб навучыцца роляў і добра выступіць.

Гарцэры вядуць вельмі цікава сваю хроніку. У ёй ёсць таксама ўспамін аб тым, што яны стараюцца памагаць старэйшым адзінокім людзям. Узялі апеку над бабуляй Лізаветай: расчышчаюць снег ля яе брамкі, прыносяць дровы, дапамагаюць у хаце.

Нядаўна пачалі збіраць народныя вырабы для школьнага этнаграфічнага куточка. Якраз у бабулі Лізаветы знайшлі стары рэпрадуктар — гэтак званую „точку". І доўга задумваліся над тым, што гэта такое і ці не варта яго таксама змясціць у школьным куточку цікавых народных вырабаў. Вядома, у музей народных вырабаў „точка" не пасуе, але вось у куточак старой тэхнікі — якраз добра. Даводзілася мне ўжо бачыць у школьных куточках старыны нават патэфон, гэта значыць, адаптар, які трэба заводзіць спецыяльнай ручкай, бо працуе ён на спружыне. Збіраць можна кожную рэч, калі яна служыць пазнаванню няведамага.

Аб усім гэтым я даведалася на сустрэчы, якая адбылася ў гэтай школе. Дзеці расказвалі, што яны чытаюць „Зорку" і іншыя беларускія кніжкі і часопісы, перапісваюцца дзякуючы адрасам з „Зоркі" з савецкімі дзецьмі, пішуць пісьмы ў „Зорку", а пасля нашай сустрэчы абяцалі пісаць яшчэ часцей.

Веру ім і чакаю пісем аб новых гарцэрскіх зборах, выступленнях калектыву, і аб усім тым, чым жыве іх школа.

На заканчэнне нашай сустрэчы дзяўчаткі прасілі не забываць пра іх, прыязджаць часцей, а на развітанне ўручылі „Зорцы" прыгожа падпісаную каляровую паштоўку на памяць. Цяпер гэтая паштоўка ўжо знаходзіцца на „Зорчынай" выстаўцы.



На пярэднім плане найбольш актыўныя ўдзельніцы беларускіх конкурсаў васьмікласніцы Івона Клімовіч і Ася Дзярманская.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара

## Для самых маленькіх

Артур Вольскі

### ШЭРШНЕВЫ ВЕРШЫ

Пахваліўся
кветцы шэршань:
— Я складаць наўшыўша
вершы!
Гэта мне
зусім не цяжка.
Што — не верыш?
Калі ласка!
Я ляшу,
ляшу
ляшу
шаду там,
дзе захашу...

Узляцеў,
загуў трубой,
задаволены сабой.
Але раптам
чуе гэткі
ён адказ
ад сціплай кветкі:
— Навучыўся б
ты спярша
еС адрозніваць
ад Ша.
Навучыўся б
ты яшчэ
Ша адрозніваць
ад Чэ.
Бо інакш не разбярэш
аніяк,
пра што твой верш!

— эШ ад Ша
і Ша ад Шэ?
Не хапала
мне яш-шэ!
Калі так,
тады, відаць,
лепей вершы не складаць.



Мікола Хамянкоў

### „ДАПАМОГ"

Поўны кошык жалудоў
Вожык ранкам нёс дамоў.
Адпачыць сеў пад кусты,
А да хаты — тры вярсты!

Зноў бярэ на плечы ношу,
Ды ісці далей не можа.
„Надта цяжкая карзіна! —
Вожык выцер пот хусцінай. —
Не данесці аднаму..."
Што рабіць цяпер яму?

Дзік ля дуба чэша бок.
— Памагу табе, браток!
Не хвалюйся, той бяды —
Данясём мы жалуды.

Ля карзіны дзік парохкаў,
І карзіна стала... лёгкай.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## У СТАРАЖЫТНЫМ МІНСКУ

Там, дзе рэчка Няміга ўпадае ў Свіслач, раскінуўся горад, абнесены высокай сцяной. Над горадам узвышаецца драўляны замак з яшчэ адной умацаванай сцяной і вежамі.

Гэта — старажытны Мінск.

Вуліцы ў ім вузкія, цесныя, звілістыя. Хадзіць і ездзіць па іх не вельмі зручна. Двум сустрэчным вазам цяжка раз'ехацца. Затое абараняць вуліцу ад ворагаў лёгка. Можна загарадзіць яе і адбіваць напады, а потым абараняць кожны дом.

Забудаваны вуліцы невялікімі хаткамі. Гэта пераважна звычайныя вясковыя зрубы з адным пакоем, з маленькімі дзвярыма вокнамі. У гэтай частцы горада жывуць кавалі, бондары, ганчары, гарбары, разьбяры, залатары.

Тут барадаты каваль у скураным фартуху працуе ў кузні на сваім падворку. Хлопец з бялявымі валасамі, што падвязаны вузенькім раменьчыкам, каб не падалі на вочы, памагае бацьку. Мяхамі з казінай скуры ён раздзімае агонь. У сваёй кузні каваль вырабляе і зброю, і розныя сельскагаспадарчыя прылады, і такія дробныя рэчы, як іголкі, шылы, шпількі, гузікі і засцежкі да адзення. А жалеза прывозяць яму вясковыя кавалі. Яны выплаўляюць яго з балотнай руды.

На зялёным схіле берага, каля замкавай сцяны, пасвяцца каровы, авечкі, козы і свінні. На траве ляжаць выцягнутыя з вады чорныя прасмоленыя чаўны. Крыху далей гарбары мочаць у цёмнай вадзе ракі сырыя, яшчэ не вырабленыя скуры. Каля берага на жэрдках сушацца сеткі. Побач стаіць хата рыбака.

Процілеглы бераг парос хмызняком і лесам. Хат на тым баку зусім не відаць. Балоцістая мясцовасць і гара на поўнач ад замка яшчэ не забудаваная. Маста цераз раку няма. І перабрацца на той бераг можна толькі на чаўне.

За замкавай брамай вуліцы крыху раўнейшыя. Яны вымашчаны дубовым бярвеннем. Па галоўнай вуліцы едуць вазы на цяжкіх рыпучых колах. Іх абганяюць коннікі, узброеныя мячамі і шчытамі. Усе спяшаюцца на плошчу, дзе знаходзіцца рынак. Большасць прахожых апранута проста, нават бедна.

У сярэдзіне ўмацаванага горада стаіць высокі дом. Хоць ён і драўляны, як усе хаты ў горадзе, але самы вялікі і прыгожы — двухпавярховы, з шырокім і высокім ганкам. Дзверы, вокны, ганак і дах княжацкага палаца багата аздоблены майстэрскай разьбой, размаляванай у розныя колеры.

На вежах замка, які пануе з узвышша над ваколіцай, і ўдзень і ўночы стаяць вартавыя. Пільна глядзяць яны ўдалечыню. Свіслач хоць і не такая шырокая, як Сож ці Днепр, але даволі паўнаводная. Плывуць па ёй плыты, чаўны і караблі з заморскімі таварамі, са збожжам, мёдам, воскам, скурай, футрамі. З кожнага судна князь патрабуе плату.

Купцы спыняюцца каля Мінскага замка. Князю яны плацяць яшчэ і за права гандлю на гэтым месцы. На рынак пад гарадскімі сценамі прыходзяць людзі з навакольных селішчаў.

На рынку ідзе ажыўлены гандаль. Гандляры, і мясцовыя і прыезджыя, крычаць, запрашаюць пакупнікоў да сваіх тавараў, нават за рукавы цягнуць. Тут выстаўлены і дарагое адзенне з заморскай каляровай парчы, і аблямаваныя футрам шапкі, і саф'янавыя боты з тонкай і мяккай чырвонай, жоўтай і зялёнай скуры, з прыгожымі ўзорамі, і срэбныя кубкі, чаркі, падносы і залатыя пярсцёнкі, бранзалеты, пацеркі з каштоўнымі каменнямі.

Такія дарагія рэчы купляюць, вядома, толькі багатыя і знатныя людзі — баяры і купцы. Просты люд тоўпіцца і доўга таргуецца каля розных гаспадарчых прыладаў — сярпоў, сякераў, медных конавак, гліняных збаноў і місак, каля звычайнага палатна і сукна, каля мяхоў з мукой і крупамі, каля нізкаў сушанай рыбы.

Сярод пакупнікоў і прадаўцоў ходзяць шматлікія жабракі.

Багацце і галеча жывуць у старажытным Мінску побач.

Мінск у XI стагоддзі яшчэ не стаў буйным і самастойным горадам. Ён падпарадкоўваецца Полацку — галоўнаму гораду вялікага і моцнага Полацкага княства.

Упершыню Мінск упамінаецца ў летапісе ў 1067 годзе.

**Віталь Вольскі**

*1. Калі ў летапісах упершыню ўпамінаецца Мінск? Да якога княства тады ён належаў?*

*2. Раскажыце пра выгляд мінскага замка, княжага палаца і гандлёва-рамеснай часткі горада.*

*3. Што выраблялі мінскія рамеснікі? Чым гандлявалі ў Мінску мясцовыя і прыезджыя купцы?*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР. 167000, Коми АССР, г. Сыктывкар, ул. К. Маркса, 216. кв. 57. Топковой Алле.

* * *

СССР. 167007. Коми АССР. г. Сыктывкар, ул. Оплеснина, 27, кв. 10. Чувохиной Татьяне. 14 год.

* * *

СССР, 346555. Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Пушкина, 3. кв. 4. Лёвиной Светлане. 12 год.

## Пішуць школьнікі



### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

4 кастрычніка 1986 года ў суботу гарцэры са школы ў вёсцы Крывец са сваім настаўнікам — дружыновым Раманам Внучко сустэліся на аўтобусным прыпынку ў Гайнаўцы з гарцэрамі школы ў Нарве. Яны былі з друхам Збышкам Будзынскім і друхнай Ёляй Кандрат. Гарцэраў з Нарвы было 20, а з Крыўца — 5. З Гайнаўкі поездам мы паехалі ў Чарлянку.

Там гарцэры атрымалі памятковыя плакеткі і неазначанай трасай мы павандравалі ў Белавежу. Ісці лесам было вельмі прыемна, надвор'е было сонечнае.

Перад палянай мы падзяліліся на дзве групы. З першай групай пайшоў друх Раман Внучко і гэтая група хавалася ў лесе, а другая група іх шукала.

За Белавежай мы разбілі лагер. Паставілі палатку, расклалі матэрацы. Потым узяліся рыхтаваць абед, які елі ўсе са смакам. Потым мы гулялі ў розныя гульні.

Суседняя група з іншых мясцовасцей запрасіла нас на вогнішча. Калі сцямнела, мы пайшлі да суседзяў на запрашэнне. Ля вогнішча мы спявалі песні, рабілі пераклічкі, друх Збышак іграў на гітары і ўсе пяклі каўбаскі.

Падсілкаваўшыся, усе гарцэры пайшлі на тое месца ў лесе, дзе гітлераўцы расстралялі людзей. Там мы паклалі кветкі і ўшанавалі загінуўшых мінутай цішыні. Камендант гайнаўскага гуфца выступіў над магілай загінуўшых з цёплымі сардэчнымі словамі памяці.

Позна ўжо было, калі мы вярнуліся ў свой лагер. Некаторыя з нас пайшлі спаць, а хто не хацеў, мог глядзець кінафільмы, яны былі самыя розныя.

У нядзелю, паснедаўшы, мы паехалі ў Белавежу, дзе на канец VI Асенняга белавежскага рэйду адбылася пераклічка. З Белавежы мы поездам вярталіся дадому. Усю дарогу мы спявалі песні. Усе былі вельмі задаволены рэйдам.

**Гарцэры з Крыўца**

### „АНДРЭЙКІ“ Ў ТРАСЦЯНЦЫ

Дарагая „Зорка“!

Я хачу падзяліцца ўражаннямі з вечара на „Андрэйкі“.

Гэтая імпрэза адбылася 29 лістапада ў нашай школе. На ўрачыстасць мы запрасілі ўсіх настаўнікаў. Падрыхтавалі шмат розных варожбаў.

Мне найбольш падабалася варажба з караблём. Мы ўзялі вялікую міску, прыляпілі да яе берагоў імёны хлопцаў. Зрабілі карабель з паперы, налілі вады ў міску і пачалі дзяўчаткі пускаць карабель. Калі ён падплываў да берага міскі да імені нейкага хлопца, гэта значыла, што так будзе звацца наш калега. У іншай варажбе я вываражыла, што буду спявачкай.

Мы таксама падрыхтавалі скромны пачастунак і танцы.

Наш клас выбіраў караля і каралеву. Каралём быў Адам Катовіч, а каралевай Эва Германюк. Наш клас на гэтую ўрачыстасць быў прыгожа прыбраны. Вельмі весела было.

**Аня Андрэюк, 5 клас**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

Я таксама хачу падзяліцца ўражаннямі з гэтага вечара. Урачыстасць пачалася а гадзіне 14-ай. „Андрэйкі“ адбываліся ў нашым класе. Нашы мамы напяклі нам пірагоў і таксама прыйшлі да нас на вечар.

Пасля пачастунку пачаліся варожбы. Найлепш мне падабалася варажба аб прафесіях. Я вываражыла прафесію медсястры. Пасля былі танцы. У перапынках мы зноў варажылі, а затым зноў танцавалі.

На заканчэнне вечара мы чыста прыбралі ў класе. Мне было вельмі цікава на гэтым вечары. Думаю, што і іншым таксама.

**Іра Кананюк, 6 клас, школа ў Трасцянцы**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Пішуць да Цябе вучні чацвёртага класа Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы. Мы хочам расказаць Табе аб сваім класе.*

*Клас наш вялікі. У ім трыццаць сем вучняў. Дваццаць дзяўчынак і хлопцаў вывучае беларускую мову. Мы любім слухаць, калі настаўніца чытае нам беларускія вершы, апавяданні і казкі. Мы любім спяваць песні. Самая любімая наша песня — гэта „Нам сонца ясна свеціць“. Усе мы выпісваем „Ніву“. Любім чытаць „Зорку“.*

*Сардэчна просім Цябе, „Зорка“, прыедзь да нас і паглядзі наш клас.*

**Клас IV „А“,**
**Пачатковай школы № 2**
**у Гайнаўцы.**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Дапамажыце дзецям знайсці 7 грыбкоў, кошык і сабачку.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

*На вясёлай хвалі*

# ДАСУСТРАКАЎСЯ!

Вечарам сабраліся ў нас госці. Як водзіцца, праводзілі стары год, пагудзелі крыху і змоўклі, сумна стала. Вось тут я ўзняўся і кажу:

— Сябры! А чаму б нам не сустрэць Новы 1987 год па-беларуску?

— Гэта як жа? — пасыпалася з усіх бакоў. Госці адразу прыкметна ажывіліся.

— Вельмі проста, — тлумачу. — Як толькі гадзіннік праб'е поўнач, святло ў пакоі тушыцца і ўсе цалуюцца!

Толькі мы па беларускай традыцыі Новы год пачалі сустракаць, як раптам ўспыхвае жырандоль. І што ж я бачу: мой брат лабызае суседа, Алесь — суседку, а я чамусьці сяджу ў абдымках невядома з чыёй жонкай. Мая палавіна адзінока стаіць каля выключальніка, яе вялікія вочы ззяюць ярчэй бенгальскіх агнёў. Яна патрабуе сустрэчы Новага 1987 года па-фінску. Звычай ёсць у фінскіх дзяўчат: у навагоднюю ноч пантофлямі шпурляцца.

Але чакаць пакуль жонка здзейсніць свой намер, я не стаў. Услед за мной на лесвічную пляцоўку выкаціўся Алесь.

— Алесь, — кажу, — ну іх усіх. Давай лепш сустракаць Новы год па-англійску. Там у іх усё нават вельмі проста. У газету загортваеш кавалак вугалю і без усялякіх запрашэнняў ідзеш у госці ў любы дом.

— Ды ну, — здзівіўся Алесь. — А навошта вугаль?

— Мабыць, замест шампанскага.

— Тады пайшлі.

Як мы ў чужую кватэру патрапілі, не памятаю. Але скажу вам, павесяліліся на славу! Пасля штрафной мы з Алесем дуэтам англійскую песню спелі. Гаспадыня кватэры ўсё выпытвала:

— У якім гэта фільме я вас бачыла? Ці не ў італьянскім?

— Магчыма, — маню я, не звяртаючы ўвагі на сумленне. — Дарэчы, браткі, а ці не сустрэць нам Новы год па-італьянску?!

— Давай, — гукаюць, — дзейнічай!

Тады я расчыняю насцеж балконныя дзверы і пачынаю выкідваць „непатрэбныя" рэчы: талеркі, кілішкі, статуэтку, вазу, крэслы з чыімсьці пінжаком. Адчуваю — лячу. Далей не памятаю. Магчыма, стаў сустракаць Новы год па-японску: яны ж, японцы, у навагоднюю ноч спаць кладуцца.

Прыйшоў у сябе ў нейкім памяшканні. Адчуваю: па мне вада льецца. „Куды гэта, — думаю, — мяне занесла, у Бірму, ці што?" Там на Новы год звычка такая ёсць: абліваць адзін другога вадою. Устрывожыўся я тут. Гэта ж не жартачкі: у чужой краіне, без граша ў кішэні. Ды й кішэні няма! Стаю ў чым маці нарадзіла. Чую, нехта побач фыркае. Прыглядзеўся — Алесь, таксама, між іншым, у „гарнітуры Адама". І вось толькі тут да мяне дайшло, куды мы трапілі. Добра яшчэ, што мы Новы 1987 год не паспелі сустрэць па-індыйску: яго там трыццаць раз на год сустракаюць...

**Пятрусь Капчык**
г. Ізяслаў



# НІЎКА



— Гэта арыгінал ці копія?

## У РАІ

Святы Пётр бачыць ля райскіх варот вядомага акцёра.

— Гэта вы! — усклікнае. — Як вы сюды трапілі?

— Гэта ўсё крытыкі! Яны ўзнеслі мяне да нябёс.

## НАШЫ ДЗЕЦІ

— Дрэнна быць дарослым, — бядуе Віцька. — Ні цукеркаў табе, напэўна, не хочацца, ні марожанага...

## ТЭЛЕГРАМА

Дырэктар да сакратаркі:

— Калі ласка, пашліце да мяне дадому тэлеграму, каб дачка на хвіліну пакінула тэлефон, мне трэба пагаварыць з жонкай.

## СТАРАМОДНЫ ДЗЯДУЛЯ

— Ты ведаеш, дзед, зараз увайшло ў моду дарыць унукам, што названы ў гонар дзеда, аўтамашыны... — сказаў унук.

— Ой, я, унучак, ужо стары, каб за новымі модамі ганяцца, — адказаў дзядуля.



**Падаючы нізка, рабіў выгляд, што нізка кланяецца.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Навагодні баль у рэстаране. У тры гадзіны ночы ўзлахмачаны, доўгавалосы, барадаты чалавек з бакалам у руцэ падыходзіць да чужога століка і пытае:

— Выбачайце, мсье, ці не мог я вас бачыць у мінулую нядзелю ў заапарку?

— Зусім магчыма. А ў якой клетцы вы сядзелі?

*

У пасажырскім салоне самалёта чуецца голас па радыё:

— Ці няма сярод пасажыраў лекара?

Адзін пасажыр устае і ідзе ў кабіну пілота. Праз нейкі час ён пытае па радыё:

— Ці няма сярод пасажыраў лётчыка?

*

Камісар паліцыі пытае ў навічка:

— Вы ведаеце, што такое „дэтэктар хлусні"?

— Вядома, я нават ажаніўся з адным з іх.

## У ГОСЦІ

Па чыгунцы паўзуць трое п'яных, перагаворваюцца.

Пятро: — Хлопцы, а куды мы ідзем?

Мікола: — Да Кастуся на пахмелле.

Пятро: — Ох і доўгія ж усходы ў гэтым будынку.

Мікола: — Так, і поручні нязручныя — нізенькія-нізюсенькія.

Кастусь: — Стой, хлопцы, ліфт даганяе!

## З „Весніка Задрыпоніі"

## АЎТАМАТЫКА Ў ДЗЕЯННІ

На заводзе „Мезон" уведзена ў дзеянне высокаэфектыўная аўтаматызаваная сістэма кантролю за якасцю выпускаемай прадукцыі. Цяпер кіраўніцтва прадпрыемства ведае з дакладнасцю да тысячных долі працэнта, колькі бракаванай прадукцыі прададзена спажыўцу.

## ДЫЛЕМА ПРАФЕСАРУКА

Ці не пара бараніць навуку ад тых, хто абараніў дысертацыю?









— Дзядзечка, зноў папаўся, прыязджай.

# КУРЁЗЫ

## РЭКОРДЫ

З самага ранку на адной з вуліц амерыканскага горада роў вялікі натоўп. Некаторыя былі ў захапленні, іншыя моўчкі чакалі, чым закончыцца гэтае відовішча. А яно было незвычайным.

Нейкі мужчына вісеў на вяроўцы, трымаючыся за яе зубамі. Другі канец вяроўкі быў прывязаны да даху пяціпавярховага дома. Рукамі мужчына паказваў, што, маўляў, не трэба хваляваца, усё будзе о'кэй!

— З глузду з'ехаў чалавек! — усхвалявана расказвала жонка мужчыны, які па-ранейшаму вісеў і нават спрабаваў усміхацца. — Захацелася яму, бачыце, трапіць у „Кнігу рэкордаў Гінеса"...

З глузду з'ехала і амерыканка Касандра Уільямс. Яна дала сваёй дачцэ імя з 1019 літар, склаўшы яго з імён радні, назваў гарадоў, краін і марак аўтамабіляў. Зараз славалюбівая маці не можа запамятаць гэтае імя, затое спадзяецца трапіць у „Кнігу рэкордаў Гінеса". На думку бельгійскай газеты „Суар", Уільямс ужо заслужыла тытул „рэкардсменкі ідыятызму".




**Калі камусьці не хапае ўласнага сумлення, ён дамагаецца яго ад іншых.**